


ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 17(23) 9 верасня 1992 г. Цана 1 рубель

# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

## ИСПОЛКОМА ОБЪЕДИНЕННОЙ ДЕМОКРАТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ БЕЛАРУСИ ВЕРХОВНОМУ СОВЕТУ, СОВЕТУ МИНИСТРОВ И РУКОВОДСТВУ НАЦИОНАЛЬНОЙ ТЕЛЕРАДИОКОМПАНИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Логика номенклатурного большинства парламента и Совета Министров Республики Беларусь проста: власть должна быть сосредоточена в одних руках, а именно в Совете Министров—единственном законном преемнике бывшего бюро ЦК КПБ, державшем некогда в своих руках законодательную, исполнительную и судебную власть. Главная задача для номенклатуры в период бархатной контрреволюции не допустить формирования: а) самостоятельной законодательной власти (отсюда боязнь и противодействие референдуму), б) демократизации исполнительной власти (мол, мы еще не доросли до института президентской власти), в) независимой судебной системы, в том числе и Конституционного суда, который мог бы, как Конституционный суд в России, сказать хоть иногда свое веское слово о законности или незаконности тех или иных актов, принимаемых «беспартийной» номенклатурой.

И все же она (номенклатура) боится формирования четвертой власти—свободных средств массовой информации, являющихся неотъемлемым атрибутом демократического общества.

Как ни странно может показаться на первый взгляд, но наши радио, телевидение и печать год назад были свободнее, чем сейчас. Но то был период растерянности и тревог для «власть придержащих». Сейчас же Совет Министров Республики Беларусь, воспользовавшись ослаблением натиска демократических сил в обществе и парламенте, а также ростом экономических трудностей (цены на бумагу, полиграфические услуги и т. п.) без лишнего шума сумел установить контроль над большинством ежедневных газет. Впрочем, удивляться нечему: кто платит, тот и заказывает музыку. Демократическим силам пока не удалось наладить выпуск своего ежедневного массового печатного органа. Еще сложнее будет организовать частное теле- и радиовещание.

Создание национальной телерадиокомпании умело было использовано прежним руководством «новой организации», подчиненной Совету Министров, для гласной и негласной борьбы с неугодными передачами и отдельными журналистами. Причем средства применялись самые разнообразные: от закрытия наиболее популярных передач («Наш комментарий») до изменения духа и содержания других («НИКа»). Формально «НИКа» осталась. Но не в качестве самостоятельного структурного подразделения, а как отдел творческого объединения информационных программ. Всем сотрудникам «НИКи» было предложено перезаключить трудовые соглашения. Внешне никто ни над кем не чинил расправы. И все же—шила в мешке не утаишь. «НИКи» не стало. Не стало передачи, которая последовательно стояла на демократических позициях, передачи, которая постоянно освещала процесс становления независимых и свободных профсоюзов, новых политических партий и организаций. Только «НИКа» подробно осветила ход забастовки и голодовку солигорских шахтеров весной 1992 года. Именно в «НИКе» смогли выступить И. Пырх с разоблачительными материалами о доморощенных гэкачепистах, а С. Алексиевич—с нетрадиционным взглядом на «афганский синдром». «НИКа» не побоялась обнародовать циничные откровения т-ща Кебича, сделанные им в Витебске о «беловежских пущистах» (Кравчук, Ельцин, Шушкевич), а также давать материал о ходе сбора подписей в поддержку референдума о недоверии нынешнему составу Верховного Совета Республики Беларусь.

Неужели после этого можно утверждать, что фактическое закрытие «НИКи» не есть политическая расправа? Разве могла номенклатура при нашем равнодушии и «абыякавасці» так долго терпеть демократически настроенную телепередачу?

Мы уже осознали, что монополия государственной собственности, ведущая к застою из-за невозможности конкуренции—это плохо, но, видимо, не хотим замечать, что еще более пагубна безраздельная монополия государства на средства массовой информации. Не будет свободных средств массовой информации (телевидение, радио, печать), не будет независимости, демократии и рынка.

Не следует забывать и то, что бюджетные средства, которые находятся в ведении Совмина, формируются за счет ВСЕХ налогоплательщиков и не являются его собственностью.

В связи с вышесказанным, Исполком ОДПБ требует выделения на телевидении и радио эфирного времени для организации передач демократическими партиями и движениями, а также постоянных полос для публикаций на страницах ежедневных совминовских газет. Верховный Совет и Совмин Республики Беларусь должны оказать материальную помощь неправительственным газетам и разработать комплекс мер по созданию альтернативного (частного) телевидения и радио.

**Г. Минск.**

**20 августа 1992 г.**

# Думка незалежных прафсаюзаў

Кіраўнікі Свабоднага прафсаюза, Незалежнага прафсаюза гарнякоў і Канфедэрацыі працы (адпаведна) Г. Быкаў, І. Юргевіч, М. Собаль прынялі сумесную Заяву аб сацыяльна-эканамічным становішчы нашай краіны. У ёй востра асуджаюцца «арганізатары драматычных працэсаў у вытворча-працоўнай ды сацыяльнай сферах», якія «рашаюць сваю палітычную задачу—захоп дзяржаўнай маёмасці». На думку аўтараў, цяперашнія гаспадарчыя праблемы з'яўляюцца палітычнай зброяй у руках былых «будаўнікоў камунізму». Яны, прымаючы пэўныя законы й пастановы, «робяць сабе мільёны», выкарыстоўваючы бюджэт і імі ж створаны дэфіцыт, скупляюць нерухомасць і зямлю за мяжой.

Аднак, нягледзячы на гэтае, а таксама й на небяспеку грамадзянскае вайны, якую—па меркаваннях складальнікаў Заявы—навязвае ўрад Кебіча, старшыні незалежных прафсаюзаў бачаць рэальны шлях да змяненняў. Ён—у прававых метадах у рамках Канстытуцыі і грамадзянскага заканадаўства.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

*Штрихи новой жизни*

# ЭЛИКСИР БОДРОСТИ

Возможно, наши фильмы социалистического реализма уже не вызывают такого прилива сил и подъёма энтузиазма, который способны вызвать голливудские красавицы.

Иначе чем объяснить, что после первого дня работы сессии в конференц-зале облисполкома демонстрировался американский кинофильм «Красотка».

А может быть прикосновение к американскому источнику чудодейственным образом способствовало решению задач, стоявших перед народными избранниками во второй день работы сессии облсовета?

Так или иначе мы получили уникальную возможность убедиться в правоте слов великого писателя, что красота спасёт мир.

**Наблюдатель.**

## Чарговая марка

БЕЛАРУСЬ BELARUS'

5.00 1992

Паважаныя калегі!

Дзякуй за вельмі цікавы апошні нумар Вашай газеты. Ім вельмі зацікавіліся нашы народныя дэпутаты, таму прашу прыслаць яшчэ некалькі экземпляраў.

Таксама дасылаю Вам для надрукавання новую марку з выявай нашага герба.

**Алег ТРУСАЎ,**
**намеснік старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Беларусі.**

*Нам пішуць з замежжа*

## POLSKIE RADIO WARSZAWA

Варшава, 13.VIII.1992

ШАНОЎНЫ СПАДАР,

Шчыра дзякуем Вам за новы, чарговы нумар газеты. Дзякуючы Вашай газеце, ды іншым, якія прыходзяць да нас зь Беларусі, мы можам сьлядзіць за тымі падзеямі, якія адбываюцца ў Вашай краіне і да якіх мы, зразумела, не ставімся абыякава. Цешыць нас кожная добрая навіна ды сам факт, што ў такой цяжкой моўнай сітуацыі беларуская прэса працягвае сваё існаваньне і змаганьне за дэмакратыю і за родную мову.

Адзьдзельна хочам падзякаваць за надрукаваньне інфармацыі пра існаваньне Беларускай рэдакцыі Польскага радыё і пра ўмовы нашага конкурсу. Дзякуючы гэтаму мы атрымоўваем ад нашых слухачоў зь Беларусі лісты з рознымі крытычнымі заўвагамі ды прапановамі, што, зразумела, памагае нам у нашай працы.

З пашанаю
в.а. кіраўніка Беларускай рэдакцыі
Польскага радыё
Ніна Баршчэўская.

## Добры дзень!

Піша да Вас рэдактар «Czasopisa» Вячаслаў Харужы. Шчыра дзякуем за пастаянную перасылку нашай рэдакцыі Вашай газэты «Выбар». Мы яе з цікавасьцю чытаем і сочым за падзеямі ў Беларусі. Гэта ёсьць вельмі карыснае выданьне і хай цешыцца як найбольшай падтрымкай сярод чытачоў. Але і мы ведаем, як цяжка знайсьці беларускага, сьведамага чытача, нават як частку тэкстаў пішацца на небеларускай мове. Маем гэтыя самыя праблемы, хаця наша рэдакцыя не наракае на адсутнасьць тэкстаў і людзей, ахвотных нам пісаць...

**З павагай**

**В. ХАРУЖЫ,**
**(рэдактар беларускай газэты на Беласточчыне—Рэд).**

## ГЕРБ ЛЕПЕЛЯ

10 верасня спаўняецца 140 гадоў з дня атрымання Лепелем герба (чырвоны шчыт з выявай «Пагоні», над якім карона ў выглядзе крэпасной сцяны).

# Наша войска, патрыятызм у якім у службовы час—забаронены

Паважаныя суайчыннікі, грамадзяне незалежнай Беларусі!

Падзеі апошняга часу ў нашай краіне і войску вымусілі мяне выказаць свае думкі і погляды на тое, што адбываецца з беларускай мовай і дзяржаўным патрыятызмам у беларускім войску. Я афіцэр гэтага войска, якое павінна быць гарантам нацыянальнай згоды, і лічу сябе адказным за лёс нашай незалежнасці.

Вядома, што годнасць нацыі складаюць яе мова і патрыятызм. У якім становішчы апынулася наша бацькоўская мова, на першы погляд, мы, беларусы, ведаем вельмі добра. Але калі паглядзець на гэтае становішча і на сябе ў ім збоку, то павінна зрабіцца жудасна. Жудасна таму, што не ведаць родную мову папросту сорам, а будучы грамадзянінам незалежнай Беларусі (і тым больш—беларусам) і весці без канца спрэчкі вакол таго: ці трэба беларускую мову зараз рабіць адзінаю дзяржаўнаю моваю—гэта сорамна двойчы. Выратаваць сваю родную мову мы здольны толькі ў тым выпадку, калі ў бліжэйшы час зробім яе дзяржаўнаю фактычна. А то пакуль адбываецца так, што амаль на паўлягальным становішчы мы самі трымаем тых сапраўдных патрыётаў сваёй роднай мовы, якія з'яўляюцца гонарам нацыі, рухавіком яе самасвядомасці.

Пытанні мовы, гісторыі Беларусі ў наш час з'яўляюцца галоўнымі складаючымі дзяржаўнага патрыятызму. Якая ж работа вядзецца ў гэтым напрамку ў беларускім войску?

Вырашана з пачатку 1993 года ў войску ўвесці заняткі па вывучэнню беларускай мовы. Для гэтай работы вызначыць вайскоўцаў, у першую чаргу з ліку афіцэраў, якія добра ведаюць мову і здольны навучыць іншых. Рэкамендуецца таксама для гэтай справы супрацоўніцтва з Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны. На першы погляд, справа ідзе і рухавіком яе з'яўляецца Міністэрства Абароны РБ. Але што адбываецца фактычна?

На Беларусі з восені 1991 года афіцыйна дзейнічае БЗВ—Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Гэта непалітычны, грамадска-патрыятычны рух, які ставіць сваімі мэтамі:

—садзейнічанне правядзенню вайсковай рэформы,

—абарону дэмакратыі і дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Асноўны напрамак дзейнасці БЗВ—патрыятычнае выхаванне вайскоўцаў. Я з'яўляюся сябрам БЗВ. Да апошняга часу ў сваёй працы сярод вайскоўцаў мы прапагандавалі сапраўдную гісторыю Беларусі, беларускую мову, а таксама падкрэслівалі, што наша войска—гэта армія незалежнай Беларусі, і яно павінна пры неабходнасці абараніць наш суверэнітэт, наш Вярхоўны Савет (як бы на яго не скардзіліся), наш Урад (пытанне сур'ёзнае, калі ўлічыць, што толькі 15% афіцэрства нашага войска з'яўляюцца беларусамі, а само войска так да гэтага часу і не прысягала на вернасць беларускаму народу). На сустрэчы кіраўніцтва БЗВ з С. Шушкевічам месяц таму Старшыня Вярхоўнага Савета запэўніў прадстаўнікоў арганізацыі, што ніякіх пярэчанняў працы сяброў БЗВ у войску не будзе.

Адпаведна загаду Міністра абароны РБ, аб якім паведамілі ў сродках масавай інфармацыі 12 жніўня 1992 года, БЗВ, як і іншым грамадскім аб'яднанням, была «прышыта» палітычная афарбоўка і дзейнасць сяброў БЗВ у войску забаронена. На трэці дзень пасля загаду асабіста я быў «запрошаны» да першых асоб Полацкай дывізіі, дзе мне недвухсэнсоўна далі зразумець, што калі я не спыню сваю дзейнасць (патрыятычнае выхаванне) у войску, то, адпаведна загаду, буду звольнены. Такім чынам, патрыятызм у беларускім войску ўжо забаронены. Якія з гэтага могуць быць практычныя вынікі?

У тым цяжкім становішчы, у якім апынулася наша нацыя, амаль адным з нямногіх рухавікоў яе адраджэння можа стаць патрыятычны рух—аматары і энтузіясты, якіх у краіне і ў войску нямнога. І калі іх звязаць па руках і закрыць ім вусны, то хто ж будзе весці справу патрыятычнага выхавання вайскоўцаў? Можа 85% афіцэраў-небеларусаў? Ці яшчэ фактычна непрацуючы ў гэтым напрамку інстытут намеснікаў па выхаваўчай рабоце?

Мне здаецца, «корань пытання» вось у чым. Аналізуючы сітуацыю, якая зараз складаецца ў Расіі (ужо даўно некаторыя дзеячы папярэджваюць аб перавароце, верагодней ваенным, увосень гэтага года), аналізуючы кадравы склад афіцэрства нашага войска, якое (быццам знарок!) МА РБ плануе прывесці да прысягі аж 31.12.1992 года, прымаючы да ўвагі публічныя выказы супраць суверэнітэту афіцэраў і генералаў беларускага войска, пазіцыю МА РБ у галіне патрыятычнага выхавання вайскоўцаў і затрымліванне вяртання на радзіму афіцэраў-беларусаў, затрымліванне па віне ўлад беларусізацыі краіны,—складаецца ўражанне, што некаму на Беларусі яе суверэнітэт і беларускасць стаяць «поперак дарогі». Тады ці ёсць у нас гарантыя, што пры такім войску мы не будзем уцягнуты ў бойню (калі, крый Божа, ажыццявяцца «чорныя» прагнозы пра Расію)??? У мяне зараз няма ўпэўненасці ў гарантыі нашай стабільнасці з такім войскам.

Вымушаны пісаць усё гэта таму, што народ павінен ведаць, якое войска ён корміць і апранае, і, як у казцы, да каго перадам, а да каго задам яно можа быць павёрнута пры пэўных абставінах.

Я перакананы, што войска павінна быць прыведзена да прысягі ў самы кароткі тэрмін. Таксама звяртаюся да народных дэпутатаў РБ і прашу разгледзець у ВС РБ пытанне: адпаведны ці не дзеючым заканадаўчым актам названы мною загад МА РБ,—загад, які зараз вайскоўцы павінны выканаць.

Прашу бацькоў, сяброў, блізкіх нашых вайскоўцаў аказаць нам дапамогу ў іх патрыятычным выхаванні, калі пазвальняюць патрыётаў.

Спадзяюся, што наша каханая Радзіма—славутая Беларусь—дасць нам новыя сілы і мудрасць у стварэнні сапраўды незалежнай краіны.

**Уладзімір ШВЕЦ,**
**капітан, горад Полацк.**



Их ратный труд нам тоже нужен.

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

**ВАЕННАМУ КАМІСАРУ КАСТРЫЧНІЦКАГА РАЁНА г. ВІЦЕБСКА**

Паважаны спадар ваенны камісар!

Узначаленая Вашай міласьцю вайсковая ўстанова разьмешчана на вуліцы, якая носіць імя генералісімуса Суворава. Пра вайсковы талент Аляксандра Суворава гаварыць няма патрэбы—ягоны вайсковы досьвед выкладзены ў кожным ваенным падручніку (дый павінен выкладацца). Але адзначым, што Сувораў ня ёсьць героем беларускага народу. Гэтая асоба аддана служыла існуючаму тады самадзяржаўю, ён жа быў і прызначаны начальнікам расейскага войска для падаўленьня паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі ў 1794 годзе. Стараньнямі Суворава Беларусь была залітая крывёю патрыётаў. Сувораў прынёс карысьць Расейскай імперыі, але не Беларусі! Мне не зусім уцямна, як войска суверэннай Беларусі можа шанаваць імя чалавека, які ў свой час гвалтаваў волю беларускага народа да незалежнасьці і лепшага жыцьця. Да таго ж у холе ваенкамату партрэтную галерэю складаюць скрозь расейскія палкаводцы! Няма ніводнага беларуса—ні Усяслава Полацкага Чарадзея, ні Андрэя Альгердавіча Полацкага, ані самога Альгерда, Вітаўта Вялікага, Ягайлы, Канстанціна Астрожскага, Міхала Клефаса Агінскага, Мікалая Радзівіла Рудога, Рыгора Хадкевіча, Марціна Лыткі, Станіслава Паца! Як загадаеце ўсё гэта разумець?

Помнік Суворову ў скверыку перад ваенным камісарыятам не проста недарэчны, гэта ёсьць непрыхаваная абраза кожнаму сьвядомаму беларусу і толькі традыцыйная беларуская талеранцыя ратуе помнік ад зьнішчэньня. Я супраць зьнішчэньня помнікаў увогуле. Помнік А. Суворову павінен заняць сваё мейсца ў музэі як тыповы ўзор мастацтва эпохі таталітарызму. На маю думку, менавіта ваенны камісарыят павінен стаць ініцыятарам дэмантажу помніка Суворову і вяртаньня вуліцы яе старадаўняй назвы—Узгорская.

**М. ПАЎЛАЎ.**

# Я—ЗА ПРИСЯГУ БЕЛАРУСИ

В последнее время журналисты посвящают свои материалы проблемам армии.

В газете «Народнае слова» за 21.08.92 г. опубликована статья под заголовком «Прошла в Витебске граница. По аэродрому...».

В ней автор приводит информацию, которая требует небольшого уточнения. Пределы Беларуси должны покинуть не два полка, как указано в материале, а управление дивизии и подразделения обеспечения, что намного менее хлопотно, чем перебазирование упомянутых двух полков. А вот для военных чиновников из управления будет переезд очень тяжелым, так как придется сменить уют комфортабельных кабинетов в г. Витебске на еще плохо обжитые кресла в пригороде Новгорода.

Несомненно, переезд на новое место приравнивается к стихийному бедствию. Но не стоит забывать, что военная служба—это не только романтика голубого неба, а еще и полевые выходы, и наряды, а также частая смена гарнизонов. Поэтому проблема переездов не снимается с повестки дня в течение всей карьеры офицера. Данный случай—не исключение.

Среди офицеров Витебского полка давно уже дискутировалась тема об упразднении управления дивизии как ненужной промежуточной инстанции, тема, которая в условиях сокращения численности Вооруженных Сил приобрела особую актуальность. И вот управление уходит. А полк продолжает жить и работать, практически не ощутив каких-либо изменений. Директивы и указания теперь «спускаются» в полк напрямую из штаба ВВС РБ, что лишний раз подтверждает отсутствие надобности посредников в лице гвардии генерал-майора В. Акимова и его команды.

В республике ведется жесткая политическая борьба. Армия не должна быть втянута в нее. Единственная идеология, имеющая право на господство в войсках,—это государственный патриотизм. Поднять надежность Вооруженных Сил можно путем приведения военнослужащих к военной присяге. И сделать это необходимо как можно быстрее, ибо содержать армию, которая имеет юридическое право не выполнять приказы правительства,—это нонсенс. А логика, с которой автор статьи приходит к выводу о сомнительности принятия присяги небелорусами, вызывает удивление. Мне известны многочисленные примеры, когда офицеры других национальностей, прожив и прослужив долгое время на территории Беларуси, проникнувшись уважением к белорусскому народу и его культуре, не видят криминала в принятии присяги на верность Беларуси.

**С. КОЧЕТОВ,**
**военнослужащий.**

# Бітва пад Воршай 1514 года. Летапіс Рачынскага

*Аб гэтым замоўчвалася*

**Лета ад божага нараджэньня 1514 месяца мая 16 дня за тыдзень па сьвятым Міколу па вясьне ўва аўторак прыйшоў князь вялікі маскоўскі пад Смаленск і стаяў пад горадам, здабываючы** і б'ючы з гарматаў дванаццаць тыдняў. Кароль Жыгімонт, прачуўшы тое, пайшоў бараніць Смаленск. З Вільні выехаў месяца юлія дваццаць другога дня ў суботу за тыдзень перад спасавымі запустамі, а смальняне, не дачакаўшы падмогі, за практыкамі і пострахамі Міхала Ґлінскага—здалі замак Смаленск князю вялікаму маскоўскаму жніўня першага дню. А ў той час на Смаленску быў ваяводам ад караля Салагубовіч, ды быў пад панаваньнем літоўскім Смаленск ад таго часу

(Заканчэнне на 7-й стар.).

*Когда обходят закон*

**СВИДЕТЕЛЬСТВУЮТ ДОКУМЕНТЫ, ПЕРЕДАННЫЕ В РЕДАКЦИЮ НАШИМИ ЧИТАТЕЛЯМИ**

# Сельсовет изъял свой ордер

Вот что написал гр-ну Лазовскому, проживающему в дер. Бабиничи прокурор Витебского района Д. Приставко (письмо приводится с сокращением):

Ваше заявление в прокуратуру Витебского района, в котором Вы указываете на незаконное вселение в занимаемую Вами квартиру семьи гр-на Якимовича С. Я., проверено.

Проверкой установлено, что действительно, администрацией и профкомом учхоза «Подберезье» спорная квартира предоставлена семье Якимовича.

Выданный Якимовичу С. Я. ордер на спорную квартиру им возвращён в исполком сельского Совета (Бабиничский сельский Совет—примечание редакции).

Разъясняю Вам, что выселение гражданина из занимаемой им жилой площади в принудительном порядке, независимо от ведомственной принадлежности жилья, возможно только по решению суда либо с санкции прокурора.

**Комментарий редакции:** Принёс этот документ в редакцию гр-н А. Лазовский. Как он сообщил, сейчас затеяна судебная тяжба. Администрация учхоза «Подберезье» судится с ним, квартиросъёмщиком Лазовским. А почему?

Как утверждает Александр Васильевич, администрация учхоза решила отдать квартиру сыну председателя Бабиничского сельсовета. А Бабиничский сельский Совет соответственно выдал Якимовичу ордер на квартиру, в которой проживают Лазовские.

Как пояснил А. Лазовский, в эту квартиру, где он проживает, чтобы занять её, взломали дверь.

Председатель Бабиничского сельского Совета Н. Якимович, с которой редакция связалась по телефону, ничего удивительного не усмотрела, что ордер был выдан сельсоветом её сыну.

А ведь квартира спорная. Действовать цивилизованным способом (как и объяснил в своём письме прокурор) администрация учхоза и сельский Совет не пожелали. Так был порождён конфликт, затянут и без того тугой узел человеческих отношений.

## Уважаемая редакция!

Читал в «Выбаре» информацию о первом заместителе председателя областного Совета Т. Мисуно, который преподнес своему сыну рождественский подарок—новый трактор «МТЗ-80».

Что это за власть и принятые ею законы, которые помогают обеспеченно жить одним и воздвигают всевозможные преграды на пути других? Тот же фермер может только мечтать о тракторе по такой цене.

Не могла бы редакция сообщить читателям, чем закончилась эта «эпопея» с трактором?

**И. ТКАЧЁВ.**

**От редакции:** ни комиссия облсовета по демократизации, гласности и правопорядку, ни президиум, ни сессия областного Совета народных депутатов не дали (а возможно не захотели дать) принципиальную оценку поступку Т. Мисуно. Всё потонуло в говорильне.



«Прокати, нас, Петруша, на тракторе, до околицы нас прокати» (из старой советской песни).

*Выходим из окопов?*

# Товарищ с горящими глазами

На днях в редакцию зашёл товарищ С... Своих ортодоксальных взглядов не скрывал.

В течение пятнадцати минут он настойчиво внушал, а я его терпеливо слушал, что такое хорошо, а что такое плохо.

По нему: возрождение национального самосознания белорусов—это очень плохо, национализм, а возрождение СССР—это очень хорошо, интернационализм. Хорошо, когда шагаешь строем и в ногу, да ещё смотришь в одном направлении, плохо, когда все—наоборот.

Заскорузлость мышления, горящие глаза, категоричность высказываний—всё говорило об убеждённости моего собеседника в скорой победе коммунистических идеалов.

На прощание он презентовал чикинскую газету «Мы и время». Советовал подумать.

**Наш корреспондент.**

# Судьба человека

## РАЗМЫШЛЕНИЯ О СЕКУНДЕ, ПЕРЕЧЕРКНУВШЕЙ ДВЕ ЖИЗНИ

**Все мы помним рассказ М. Шолохова под таким названием. Это рассказ о простом рядовом труженике, о жестоких испытаниях, выпавших на его долю. Мой отец, Букачев Николай Иванович, 1931 года рождения, как и главный герой шолоховского рассказа, по профессии—шофер. Около 40 лет он водил грузовики, не совершив ни одной аварии—до 1 июня 1992 года...**

Получить образование отцу помешала война. Так и остались у него всего 4 класса. Профессию шофера он приобрел в армии в начале 1950-х годов. И с тех пор исколесил множество дорог, сменил множество грузовиков по причине их устаревания—от ЗИСа до самосвала ГАЗ-53. Несколько лет отработал на целине в Карагандинской области. Там родились мы с братом.

В 1967 году наша семья вернулась в Беларусь. Поселились в маленькой однокомнатной хатке в д. Дрюково, где и прожили больше 20 лет. В 1988 году переехали на новую квартиру (без всяких удобств) в д. Вороны. Все это время—с 1967 года—отец работал шофером в местном совхозе. Работал старательно, никогда никаких конфликтов ни с начальством, ни с коллегами-рабочими не было, это может подтвердить любой житель нашей деревни, любой работник совхоза. Имеет правительственные награды—почетные грамоты «Победителя соцсоревнования», медаль «За доблестный труд», знак «Ударник коммунистического труда». Но вся эта блестящая шелуха застойных лет никогда не имела и не имеет никакого значения в жизни простого скромного труженика, беспартийного, получившего только начальное образование. Судьба моего отца—это яркий пример того, как наше беспощадное государство, десятилетиями жестоко эксплуатируя простых рядовых тружеников, выжимает из них все соки, а в конце жизни обрекает на нищету и прозябание. Всю жизнь, сколько я себя помню, отец бился как рыба об лед, стремясь обеспечить семью, нас—двоих детей—поставить на ноги, разрывался между личным хозяйством, приусадебным участком и рабским трудом на советскую власть в совхозе, когда во время посевных и уборочных кампаний приходилось работать от зари до зари, а часто—и сутки напролет. Всю свою жизнь отец горбатился на тех, кто и поныне сидит в роскошных кабинетах. Положил на них свое здоровье (перенес две серьезные операции на желудке) и ничего не получил взамен. Никогда он не был ни в каких санаториях, ни в домах отдыха—всю жизнь только беспросветный труд. И никаких сбережений не нажил, остался фактически ни с чем. С прошлого года отец—на пенсии, но продолжал работать, т. к. практически невозможно прожить в наше время на одну пенсию. Но главная причина—он не хотел расстаться с любимой, пусть и нелегкой, работой. Все-таки отец хотел отработать это лето и осенью окончательно оставить работу, т. к. и здоровье стало подводить.

Но 1 июня, в первый день лета, злодейка-судьба нанесла отцу самый страшный удар. Повторяю—всю жизнь отец отработал без аварий, без ДТП, никогда у него не было конфликтов с ГАИ. В тот злополучный день ярко сияло солнце. Казалось, ничто не предвещало беды. После обеда, около 14-00, отец получил задание—съездить в д. Крынки Лиозненского района за запчастями. Выезжая на закрепленном за ним самосвале ГАЗ-53 на главную дорогу—шоссе Витебск—Смоленск, отец не заметил велосипедиста-дачника, который двигался по шоссе в сторону Витебска. То ли причиной стало ослепительно яркое солнце, в этот момент бившее отцу прямо в глаза, то ли велосипедиста заслонило в этот момент зеркало заднего вида автомобиля. Как бы то ни было, отец, лишь слегка притормозив, убедился, что проезжая часть шоссе свободна и начал выезжать со второстепенной дороги на главную. На протяжении 25 лет он ездил по этой дороге, тысячи раз проезжая этот перекресток, всегда все было благополучно. У него уже выработался определенный автоматизм действий. Он заметил велосипедиста прямо перед капотом автомобиля, когда уже было поздно. И хотя автомобиль в это время двигался со скоростью всего 12 километров в час (как зафиксировано в протоколе ГАИ), столкновения и наезда избежать не удалось, все решилось в какие-то доли секунды. В результате—ДТП со смертельным исходом. От полученных травм велосипедист—35-летний рабочий Витебского радиотехнического завода Виктор Майсаков, отец двоих детей—погиб фактически мгновенно.

Согласно правилам дорожного движения, в этой трагедии виноват Н. И. Букачев—он не пропустил транспорт, двигавшийся по главной дороге. Но я считаю, что главный виновник происшествия—это наше государство, которое не мо-] жет одним обеспечить достойную старость, а других из-за высоких цен и переполненности общественного транспорта заставляет пренебрегать этим транспортом и пользоваться велосипедом для поездок на дачу, находящуюся за десятки километров от города.

Кто-то может сказать: сынок выгораживает отца, виновного в гибели человека. Да, мой отец виновен, он понесет наказание. Но я считаю, что он наказан уже самим фактом случившегося. Он переживает случившееся не меньше родных и близких погибшего. Как тяжела профессия шофера, может рассказать только тот, кто в полной мере испытал на себе все трудности этой профессии. Я знаю одно: какие-то доли секунды солнечным днем 1 июня 1992 года перечеркнули все 40 лет безаварийной работы отца. Какая-то секунда перечеркнула всю его жизнь, и прошлое, и будущее. И неизвестно, что лучше: погибнуть мгновенно на месте происшествия или до конца дней своих казнить себя за секундную неосторожность и вновь и вновь возвращаться мысленно в тот солнечный черный день, в те роковые мгновенья. И ничего уже нельзя поправить.

Что ж, у каждого своя судьба. Я не понимаю только: почему она так жестока к простым труженикам, скромным работягам, таким, как Виктор Майсаков, погибший в расцвете лет, как мой отец, честно отпахавший всю жизнь и на склоне лет попавший на скамью подсудимых? Чем прогневали судьбу дети, погибшие и искалеченные в автокатастрофе на территории совхоза «Рудаково» ровно через неделю после описанного здесь случая—8 июня?

А может, все дело в том, что нигде, ни в одной стране мира рядовые труженики, в т. ч. и дети, не подвергались столь чудовищному угнетению, столь жестокой эксплуатации, как в нашем «советском социалистическом» государстве, с которого сброшена парадная вывеска, но которое по-прежнему остается антинародным и бесчеловечным.

**А. БУКАЧЕВ.**



*6 жніўня г. г. у газеце «Віцебскі рабочы» апублікаваны артыкул Р. Навасялецкага пад назвай «Каму патрэбна хлусня аб мінулым?»*

*Рэдакцыя атрымала водгукі на гэтую публікацыю, якія друкуюцца ніжэй.*

# ПА СТАРОНКАХ

## ЧТО ЗА НАДРЫВНЫМ ПРИЗЫВОМ?

В статье «Каму патрэбна хлусня аб мінулым?» автор пытается преподнести советскую историю в глянцевой оболочке. Благо, молодые при том периоде не жили, а очевидцы, из-за созданных тоталитарным режимом «условий» жизни, ничего не смогут уже рассказать. Отмучились.

Оказывается, как утверждает автор, массовый голод 1933 года был вызван необыкновенной засухой. При этом он вполне серьезно ссылается на рассказы своей стодвухлетней бабушки.

Значит, виновата матушка-природа. Насильственная сталинская коллективизация здесь ни при чем? Как и не в счет идеология классового насилия власти? Какие же аргументы приводятся в доказательство?

«Магу прывесці,—пишет Новоселецкий,—і цытаты з тагачаснай прэсы, як яшчэ той урад прымаў меры па вырартаванню людзей ад галоднай смерці і як нас, дзяцей загінуўшых бацькоў, кармілі і даглядалі ў дзіцячых дамах».

«Весомые» аргументы, ничего не скажешь. Но та же самая пресса несколько лет спустя, в 1937 году, обвиняла в шпионаже Бухарина, Каменева, Зиновьева, миллионы других граждан.

Кто сейчас поверит в этот бред? Разве что вылупившийся из яйца тоталитарной курицы «гомо советикус». И потом, кто виновник гибели этих родителей? Не та ли власть, которая вначале пропустила миллионы мужчин и женщин через молох гражданской войны, жернова жесточайших репрессий, а затем, в лице официальной пропаганды, лила «крокодиловы» слезы по поводу бедствий несчастных сирот, лишенных нормального детства.

Да, если хотите, не дать умереть детям от голода, чтобы затем на почве беспамятства вылепить из них надежную опору режима.

Не поддается осмыслению следующее утверждение автора о том, что проживая в пятидесятые годы в пос. Марково на Чукотке, он «бачыў, як Савецкая ўлада клапацілася аб выжыванні і ўмацаванні мясцовай карэннай нацыянальнасці—чукчаў, ламутаў, юкагіраў і інш. Каб перасяліць іх з яранг, чумаў і зямлянак, былі пабудаваны дабротныя двухпавярховыя жылыя дамы».

Как говорится, приехали, дальше некуда. Можно поаплодировать. Веками эти народы создавали свою жизненную среду, а тут, на тебе, «здрасьте», пришел «заботливый» дядя в лице советской власти и порушил устоявшуюся систему жизнеобитания малых народов. А что взамен? Переселил в советские резервации, открыл институт народов Севера, очевидно, для изучения проблем их выживаемости в условиях социалистического эксперимента.

Это такая же глупость, как переселение крестьян из собственных подворий в многоквартирные дома. И такое, к сожалению, было. Вот так и сидим на глупости и глупостью погоняем.

Советую, уважаемый ученый, поехать в Тюменскую область и воочию убедиться, как вытеснил нефтегазовый комплекс в Ямало-Ненецком и Ханты-Мансийском национальных округах лиц коренной национальности, какой вред нанес экологии.

Далее автор уточняет, что ни в одном магазине, где он жил, не продавали спиртное. «А кожнага рускага, які прыехаў туды і асмеліўся пачаставаць чукчу гарэлкай, высялялі з Чукоткі. І гэта ўсё я бачыў на ўласныя вочы. І гэта ўсё сучасныя «дэмакраты» хочуць, каб я забыў».

Непонятно только, чем здесь можно гордиться. Отсутствием элементарных человеческих прав? Варварством и дикостью системы? Или оперативностью выдворения без суда любого гражданина, проживавшего на данной территории?

И потом, на мой взгляд, «сучасныя «дэмакраты» не придают такого значения увиденному Вами на Чукотке. Если еще свежо в памяти и рука тянется к перу, пишите в газету. Как однажды сказал поэт: «скрипи, скрипи перо, переводи бумагу». Делитесь своими впечатлениями с читателями. Защищайте, на здоровье, права американских индейцев (если они Вас об этом попросят).

Чтобы как-то оправдать тоталитарный режим, автор задает риторический вопрос: «У якім пункце статута партыі або праграмы сказана аб чалавеканенавісніцкай дзейнасці?» Вы правы, мы ничего не найдем, даже если будем разглядывать буковки под микроскопом.

Насколько мне известно, в программе германского национал-социализма также не говорилось открытым текстом о человеконенавистнической деятельности. Там во главу угла ставилась «чистота» арийской расы.

Сталин тоже не говорил об уничтожении миллионов граждан. Он просто по-отечески наставлял, что по мере продвижения к социализму классовая борьба будет все более обостряться. А в партийных документах брежневского «застоя» вообще отсутствует упоминание о политических узниках. Монолитный, единый советский народ.

И наконец, как же предлагает автор застраховаться от умышленного искажения социалистической идеи? Где взять ответ на сей жгучий вопрос? Оказывается, он лежит на поверхности. Все проходили мимо. Новоселецкому посчастливилось увидеть. Это «неабходнасць прымянення больш **строгага рэжыму** падбору кіруючых кадраў».

Значит, опять ужесточение режима. У нас вообще режимная страна. Более 70 лет пришлось жить по режиму.

Чего только не напридумали. Пропускной режим, пограничный режим, режимное предприятие (должность по «кадрам и режиму»), колонии усиленного, строгого, особого режима.

Теперь уже уважаемый автор предлагает более строгий режим в качестве панацеи от проникновения в верхние эшелоны государственной власти так называемых демократов. Куда уже строже, если при прежнем режиме поставили к стенке миллионы?

Не ровен час, можем к такой ситуации подойти, когда человек будет занесен в Красную книгу на одной шестой части земли. Кто же тогда будет читать Ваши политические откровения, товарищ Новоселецкий?

Ну ладно, допустим, Ваша, мягко говоря, «научная» идея принята. Уровень режима, исходя из ленинского постулата (социализм—это учет и контроль) должен контролироваться. Кому поручить такое дело? Автору этого проекта? А не получится так, что через некоторое время придет новый «прожектёр» уже архистрожайшего режима и, обвинив нынешнего контролера в халатности, отправит его вторично, но уже не по своей воле, в ссылку в пос. Марково на Чукотке, где в лучшем случае ссыльному придется коротать остаток жизни?

Заканчивает свою статью автор надрывным призывом: «Дапамажыце ж выратаваць Радзіму і народ ад знішчэння».

Господи! Сколько уже прошло перед глазами таких несостоявшихся «защитников» Отечества!

**Борис ХАМАЙДА.**

## Пра бар'ер забойства ў Р. Навасялецкага

Дарэчы, гэты псіхалагічны бар'ер існуе ва ўсіх нармальных людзей, бо калі б яго не было, чалавецтва загінула б ад бясконцых боек і войнаў яшчэ напачатку развіцця тэхнічнае цывілізацыі.

А вось у «савецкіх» падняць руку на іншага ці не падняць—часам і выбару такога не было. Прыгадаем хаця б Курапаты, дзе адзін чалавек («савецкі» з НКУСа) забіваў іншага. А штрафныя роты падчас вайны? Ці ж не пад прымусам вялі людзей на вядомую смерць стваральныя гэтых вайсковых фарміраванняў? Не матэрыяльнымі і чалавечымі (мы ведаем колькі афіцэраў было рэпрэсіравана) недахопамі Чырвонай Арміі растлумачваецца аўтар хуткі, амаль няспынны наступ фашысцкай кааліцыі, а псіхалагічнай апрацоўкай. Паводле такога тлумачэння воіны Брэсцкай крэпасці павінны былі б адразу трапіць у палон ад разгубленасці: страляць ці не?

І калі нават разглядаць псіхалагічныя працэсы ў такіх надзвычайных умовах, то, напэўна, у большасці людзей спрацуе інстынкт самазахавання, а не ўзнікнуць філасофскія развважанні: знішчаць ці не ворага Бацькаўшчыны і твайго ўласнага (вось ён—перад табой!).

Аднак адмаўляць цалкам псіхалагічны націск на мірных жыхароў ды жаўнераў былой савецкай арміі проста немагчыма. Апрацоўка вялася ў накірунку: спіце спакойна, вайны не будзе, а калі й здарыцца, то наша армія ўсіх мацней. Вось на перадоленне (праверку практыкай) гэтых штампаў спатрэбілася ўсяго колькі дзён: за невялікі час вораг заняў Менск, Вільню, Рыгу й Львоў. А ачомаліся ад страху (адна з праяў інстынкту самазахавання) «непераможныя» толькі ў жніўні і верасні ля Смаленска і Гомеля, Кіева.

**С. НАДЗЕЖДЗІН.**

*Надышоў час*

## І ЗНОЎ «ШПІЁНСКІ» ПАДРУЧНІК

Вельмі радасную навіну прынёс нам верасень: у 12-й школе г. Віцебска адкрылася адразу 7 (сем) беларускамоўных першых класаў!!! Нарэшце з'явілася ўпэўненасць, што наша Мова адродзіцца. Ну, думаў я, надышоў час, калі незалежная рэспубліка дэпалітызуе адукацыю. Хопіць нам камуністычных ідалаў і догм, якія, як чарвякі, кішэлі на кожнай старонцы!

Вечарам са школы прыйшла мая засмучаная дачушка-сямікласніца і сказала з горыччу: «Зноў нам выдалі «шпіёнскія» падручнікі».

Зусім нядаўна ў аўтарытэтнай газеце «Аргументы и факты» мы з абуранай дачушкай, як і яшчэ мільёны чытачоў, азнаёміліся з фактамі, што Ленін рабіў рэвалюцыю пад кіраўніцтвам кайзераўскай Германіі.

А вось чым «накашпіраваны» падручнік беларускай мовы Яўневіча і Андрэенкі, выдадзены ў 1989 годзе:

«Ленін стварыў вялікую партыю камуністаў», стар. 10 (дзякуй Леніну—А. К.)

«Уладзімір Ільіч даў партыі і народу ясную праграму будаўніцтва камунізма», стар. 11

«Камуністы смела пракладваюць да зорак дарогу», стар. 44.

«КПСС прайшла цяжкі, але слаўны шлях», стар. 51

«Ленінскі ЦК вядзе партыю і савецкі народ да новых перамог», стар. 51 (ужо «прыйшлі»—А. К.)

«Вялікаму Леніну сэрцам народа паклон аддае Беларусь», стар. 57

«Нас Ленін з'яднаў назаўсёды адзінаю праўдай сваёй», стар. 69

«Пад сцягам Леніна ў росквіце творчых сіл уступіў беларускі народ у другое пяцідзесяцігоддзе сваёй рэспублікі», стар. 74

«З імем Леніна, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі працоўныя Савецкай Беларусі здзейснілі выдатныя працоўныя подзвігі», стар. 85

«Доўг і абавязак вучняў—...быць вернымі... баявым традыцыям Камуністычнай партыі...», стар. 99

«Кожны дзень наш багаты на подзвігі ў імя камунізма», стар. 164

«Я хачу, каб называўся камуністам родны сын мой, а таксама сынаў сын», стар. 159

«Дарагія сябры, юныя ленінцы! Вучыцеся жыць і працаваць па запаветах правадыра ўсяго чалавецтва—У. І. Леніна», стар. 176

«Мы крочым дарогаю Леніна—робім яваю казкі і сны» стар. 177

«Мы Леніна любім, мы Леніна помнім, па-ленінску вучымся жыць», стар. 190.

«Як нашы бацькі-камуністы, мы з Леніным крочым заўжды», стар. 191

«Ён, Ленін, азначыў, акрэсліў дарогу ў новую праўду зямлі», стар. 195.

«На подзвігі ленінскі сцяг нас натхняе, нас партыя к ленінскай мэце вядзе», стар. 213

«Заўжды жыве ў нашых сэрцах Ленін», стар. 239

«Як добра з партыяй ісці!», стар. 240

«Нам, камуністам, так верць, як верым мы ўсе Ільічу», стар. 242 (Вось гэта адзіная праўда, нарэшце—

